*Mater Lithvaniae, ora pro nobis!*



# ЛІТВА

**глос монархісты**

**№ 5 (11)**

*МЕСЯЦ ВЕРАСЕНЬ (ВРЭСЕНЬ) РОКУ 2001*

ҐАЗЭТА ЗАСНАВАНА Ў 1908 РОКУ, АДНОЎЛЕНА Ў 1995 Р.

АД РЭДАКЦЫІ

## ЧАМУ “ГЛОС МОНАРХІСТЫ”

Чаму ґазэта “Літва” атрымала дадатак да мінулай назвы “Глос Монархісты”? Звязана гэта з нашым сьветапоглядам, кторы уважа, іж праўдзівы Літвін заўжды імкне ся да гісторычных крыніцаў і шануе традыцыю. Згодна з імі наша праўдзіва Айчына заўжды мела монархічны дзяржаўны лад, што і да дня сяго адбіва ся ў мэнтальнасьці нашага простага люду. Аджа быць Літвіном значыць для нас быць монархістым, бо сьвята мэта кожнага Літвіна стараць ся адрадзіць наша Гаспадарства – Вяліка Княства Літоўска, на чале із Вялікім Князем.

Другім аспэктам на які хацелабы ся звярнуць увагу ест моцна сувязь, ктора істнуе між монархічным, традыцыйным а консэрватыўным сьветаглядамі. Так напраўду, дык нема ані традыцыяналісты, ані консэрватысты бэз монархічнага паходжаньня ўлады ад Бога. Бо і традыцыя і супольны гаспадарствавы лад, усё гэта толькі сродкі для дзеяў Каралеўства Божага на нашай зямлі.

Vivat Magnus Dux Lithuaniae!

*Аляксандар Ян Стральцоў-Карвацкі,*
*Рэдактор*

ІДЭОЛЕГІЯ

## МЫСЬЛІ МОНАРХІСТЫ

Вельмі абмежаванай стала ідэйна база опозыцыі сяго дня. Калі на пачатку 90-х рр. мінулага сталецьця адчуваў ся гісторычны ўздым, што суправаджаў ся актыўным ідэолеґічным пошукам, дык днесь мы обсэрвуем поўну дэґрадацыю політычнай мыслі опозыцыі. Така ґлёбальна рэстаўрацыя традыцыйных для нашай істоты паняцьці як Пагоня, Унія, ВКЛ мела пачатак менавіта 10 лет таму і не стала даведзена да лёгічнага завяршэньня. Нам належыць у сім дні даправодзіць гэту шчытну справу да канца, гэта значыць да поўнай рэгабілітацыі і плённага развою.

Пачнем з сымболікі - нашым заданьнем ест аднаўленьне гэрбу гаспадарства. Аджа не варта займаць ся мастацкім пошукам, але належы аднавіць гэрб зэ Статуту ВКЛ 1588 р., дзе карона вызнача вышыню маестату Вялікакняскай улады. У параўнаньні з варыянтам 400-летняй даўніны, новачасны “Калгасны Вершнік” (1991 р.) у чэпчыку, замест рыцарскага шолама і бэз Вялікакняскага Маестату выгляда запраўды ненатуральна і сьмешна.



Што датычыць пытаньня веры, то належыць аднавіць гісторычну справядлівасьць згодна з якой уніятам мусяць павярнуць касьцёлы ґвалтоўна адабраны Маскоўскімі Царамі ў цягу XIX ст. Іначай любы дэклярацыі аб адраджэньні Уніі носяць непаважны характэр. Перад усім трэба клапаціць ся пра духовы стан вернікаў, таму найвышэй шкодна, калі “сьвядомыя беларусы” дэкляруюць, што яны належаць да грэка-католікаў, наведваючы Боскую Літургію Ахвяры адзін або два разы на рок. Пра яка духова адраджэньне нацыі можа ісьці ся пры такіх лідэрах. Менавіта яны павінны падаваць прыклад гарлівасьці ў справах веры, бо Каліноўскі загінуў не толькі за краі, але і за праўдзіву веру.

Нарэшце найгалаўнейша справа з Вялікім Княствам Літоўскім. Тут як і ў папярэдніх выпадках обсэрвуема фатальны брак політычнай волі, які спрычыня ся той сытуацыяй, іж “народ якобы нас не поймёт”. Народ ніколі і нікога “понимать” не будзе, але пойдзе за тым, хто ма ясны і конкрэтны ідэі, чыны і мэты. Калі Спадарове з “аб’яднанай опозыцыі” хочаце замацаваць за сабой мейсца ў гісторыі, рабіце моцны чыны, выпрацоўвайце глыбоку ідэолёгію, кажыце гісторычну праўду і не бойце ся, што вас не зразумеюць. Таму трэба ясна паведаць усім, іж ВКЛ было і ест нашым Гаспадарствам, і мы яго нехібна адновім. Гэта ест высока мэта, дагодна Пану Богу, што ўсправедліўля наша істнаваньне.

*Літоўскі Монархіста*

ІДЭОЛЕГІЯ

## ЛІТВІНСКІ РУХ – АДКАЗ ДЭҐРАДАЦЫІ СУЧАСНАГА ГРАМАДЗТВА

Сучасна грамадзтва характэрызуе ся глебальнымі дыспропорцыямі ў сфэры забэзпячэньня патрэбаў асобы. Для прыкладу канечна прасьлядзіць гісторыю развою эўропэйскай цывілізацыі з IV да XX стст. Аджа наша цывілізацыя будавала ся ад часоў першага хрысьціянскага Імпэратара Рымскай Імпэрыі Константага на твардых моральных фундамэнтах. Былі знішчаны паганскі культы, які прапаведвалі пакланеньне прыродным багам, прынясеньне ахвяр і свабоду сэксуальных сувязі. Дзеяньні Імпэратара Константага мелі несумніўна позытыўны эфэкт, бо прынесьлі праўдзіву веру для цэлай Эўропы, у тым ліку і для нашых продкаў. Пасьля дадзенага гісторычнага момэнту лёс Эўропы непарыўна звязаны з лёсам хрысьціянскай веры. Менавіта хрысьціянства дало сучаснай Эўропе сыстэм моральных вартасьцяў, сыстэм эдукацыі і выхаваньня, этыку стасункаў паміж монархамі і фэўдаламі. Бэз данага сыстэму немажліва ўявіць і нас з вамі сёньня. Герархічна структура Касьцёла ў Эўропе прынесла зладжанасьць у сыстэму міжгаспадарствавых стасункаў. Нажаль напрыканцы XVIII ст. спачатку ў Францыі, а пасьля і ў рэшце Эўропы даны сыстэм быў знішчаны, а замест яго была ўведзена дыктатура лібэральных вартасьці, яка прогрэсуе і да днесь.

Наш народ у канцы XVIII ст. быў пазбаўлены гаспадарстававасьці і з гэтай прычыны стаў ся об'ектам рознабаковых уплываў. З аднаго боку адбываў ся вельмі моцны ўплыў маскоўскай, знешне бізантыйскай, а водле істоты залатаардынскай культуры, яка набыла моцна консэрватыўны характэр у XIX-XX стст., але з іншага боку дарэшты нішчыла нашу радзіму культуру. З іншага боку ўплыў аказвала нова заходня культура, катора не мела нічога супольнага з адвечнай хрысьціянскай традыцыяй, але на пачатку толеравала развой нацыянальных культур. У гэтых варунках наш народ знаходзіў ся і да сёньня знаходзі ся ў выключна труднай сытуацыі, калі тэ што ў нас традыцыйна нішчы ся масавай лібэральнай культурай праз электронны сродкі масавай інформацыі, а тое, што нацыянальна водле формы нішчы ся ў сваю чаргу маскоўскім агрэсорам, які ажыцьцяўляе гаспадарчу і інформацыйну экспансыю на наш край.

Істнуючы ў гэтак неспрыяльных варунках, едына выйсьце для нашага народу, аперці ся на тварды духовы фундамэнт, якім можа быць толькі вера і звязаны з ёй моральны вартасьці. Бэз моральнага аднаўленьня немажліва ест аднаўленьне народава і гаспадарча. Таму мы разглядаема літвінскі рух, як фундамэнтальны рух народавай традыцыі, які здольны супыніць процэс дэградацыі нашай культуры і агульна цывілізацыі ў сёньняшніх выключна неспрыяльных варунках. Толькі моцна духова аснова дазволі нам вытрываць як народу ў цягу сталецьцяў.

*Літовец*

## АБ ЭЎРОПЭЙСКІХ ВАРТАСЬЦЯХ



Астатнім часам дужа ся мові аб т.зв. эўропэйскіх вартасьцях, што лучаць постсовецку Рэспубліку Беларусь з Эўропай. З боку літвінаў належала б даўна даць адповедзь усім "вольным" разважаньням на даны тэмат. Бэз сумніву належнасьць да Эўропы ест нашай спадчынай, толькі пытаньне да каторай? Да сёньняшняй Эўропы моральнай індыфэрэнтнасьці, да якой яна прыйшла за апошні 200 лет, чы да Эўропы праўдзіва хрысьціянскай, апорай якой быў Каталіцкі Касьцёл? Гэта пытаньне і сёньня ставі ся ў той жа Эўропе. Яка яна павінна быць, чы мусіць прымаць пад увагу некаторы моральны нормы, што характэрызуюць цывілізавана грамадзтва. Апошнім часам пад тэрмінам "цывілізаваны" ў большасьці разумеюць свабоду найбарзей вычварных збочэнь, не раз асуджаны ў Бібліі. Пад правамі чалавека ў той жа Эўропе ды ў Злучаных Штатах разумеюць ся правы дэструктыўных і праводзячых да ўсеагульнай дэградацыі меншасьцяў. Гэта не сьведчыць пра тэ, што ўсе людзі ў Эўропе мысьляць у гэты спосаб. Дзякуй Богу і там застало ся дужа людзей, што сьмела звяртаюць увагу іншых на культурны і цывілізацыйны заняпад Эўропы. Вось жа на розны пытаньні да літвінаў аб нашай цывілізацыйнай орыентацыі, можна адказаць так: мы належым да лацінскай і бізантыйскай цывілізацый, які істнавалі кадысь даўна, а сёньня знішчаны новасьпечанымі псэўдаэўропэйскімі манкуртамі. Мы за цывілізацыю Вялікага Эўропэйскага Духу, збудаванага на ґрунце праўдзівага хрысьціянства, але мы супраць цывілізацыі дэградацыі і духовага знішчэньня.

*Традыцыяналіст*

ПОГЛЯД

## ЛІТВІНЫ І ПОЛІТЫКА

Чы Літвіны ся знайдуюць паза політыкай? На гэта пытаньне трудна даць едназначну адповедзь. Місыя Літвінаў у павяртаньні прававітай улады – іншымі словы Вялікага Князя. Натуральна іж змена ўлады будзе мець аспэкт політычны, але перад усім гэта ест павяртаньне адвечнай справядлівасьці. Таму і да політыкі Літвіны падыходзяць як да інструмэнту пропаґанды, а не канцовай мэты. Айчына наша праўдзіва чакае нас на Небе. Тутака мы можам стварыць толькі недасканалы ўзор, але як усе рэчы годны і добры з Хрыстусам змёртвыхпаўстануць, гэтак і Айчына наша змёртвыхпаўстане.

Згодна з акрэсьленай позыцыяй Літвіны не ўважаюць актуальну Рэспубліку Беларусь і яе папярэдніцы (ССРБ, Літбел, БССР) як леґітымны гаспадарствы. Беларуска Народна Рэспубліка тэж не можа уважаць ся праз Літвінаў леґітымнай, бо па перша не адбудоўвала лад монархічны, ані брала за падставу сваго адраджэньня ВКЛ.

Адпаведна прыведзеным постулятам Літвіны не ўзнаюць жадных выбараў ва ўставадаўчы орґаны, утвораны непраўна і незгодна з адвечным Божым парадкам. Гаворачы аб выбарах так званага "Прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь" у кторых ся ўдзельнічаюць хамы, злачынцы і бэзбожнікі - мы не ўзнаема іх хамскай улады. Усялякага роду "выбары" ў Рэспубліцы Беларусь могуць быць выкарыстаны толькі для пропаґанды нашай ідэі, для знішчэньня гэтага бэзбожнага ладу.

*Незалежны назіральнік*



*Літоўска Народава З'едночаньне ўважа гісторычны процэс за вынік Божай Абачнасьці. Дарогі Божай Абачнасьці не суць чалавекаві вядомы, атож чалавек несьпела рачыць мысьліць аб справах зямных і часта не разуме трывалых Божых правідлаў. Для таго мы жадамы як найглыбей пазнаць гісторыю краю, абы на іле Бог пазволіў чалавекаві ўразумець яго права, на тыле есмы зразумелі.*

*У адпаведнасьці з даным постулятам маема разумеці нашу місыю: не мы сябе паўтваралі і не нам ведаці на пэўна, з якой мэтай мы есмы, але тое, жэ мы ўтварылі ЛНЗ і тыле нас ест, гэта нам дае права да змаганьня за нашу прышласьць. Ежалі Бог рачыць нам звыцяжыць, тым пацьвердзім слушнасьць нашага змаганьня. Ежалі Бог адмовіць, тады не мелі слушнасьці нашы забегі, бо не варты мы лепшага і трэба нам яшчэ дужа пакутваці, ніж Пан ся змілуе над намі.*

# ГАСПАДАРСТВАВАСЬЦЬ У СЬВЯТЛЕ ТРАДЫЦЫІ

***Гісторычны процэс***

У цягу гісторыі ад XVIII ст. і да XX ст. атрымалі рацыю быту гэткі паняцьці як этнічны засады ўтварэньня гаспадарстваў. Згодна з данай засадай кажды народ ма ўтвараці ўласна гаспадарства бэз узгляду на традыцыю. Канцэпцыя така, маючы ў сабе дужа прыцягальнага, не мней аднак у рэчаістнасьці Рэспублікі Беларусь не да сабе рады. Днесь жадны зэ звычайных абыватэлі Рэспублікі Беларусь не можа дайсьці да самадзельнага ўсьвядомленьня сябе як адробнага народу. Атож мы высоўваема канцэпцыю традыцыйнай будовы гаспадарства, ґды кажды знойдзе ў данай традыцыі ўласьцівы яму элемэнт і бэз страты належных асаблівасьці здоле злучыці ся "як вольны з вольным і роўны з роўным". Гэта ест недатыкальна засада літоўскай гаспадарствавасьці.

З нашага пункту гледжаньня ґрунтам на кторым утварыў ся ў поўным сэнсе Літоўскі Народ ест Літоўска Гаспадарства. Уважаема, іж тэй конґлёмэрат этносаў і этнічных ґруп, істнаваўшых у палове XIII ст. на тэрэне спаўчэснай Рэспублікі Беларусь здолеў заядночыць ся ў Літоўскі Народ толькі дзякуючы ўтварэньню гаспадарства: Велькага Княства Літоўскага. Ад пачатку і да канца гаспадарства, галоўным яго членам сталі ся землі між Вільнам, Наваградкам, Гроднам а Менскам. Водле права валоданьня належалі нам таксама і землі на ўсход ад Менска, ажно да Дарагабужа, Вяліжа, Старадуба і г.д. З гэтага выніка, іж вялікша і сяродкава часьць нашага гісторычнага гаспадарства знайдуе ся на тэрэне спаўчэснай Рэспублікі Беларусь.

Менавіта нашы землі мелі велькі ўплыў на суседні Жмудзь і Русь-Украіну. Таму не выдае ся мажлівай адбудова Велькай Літвы бэз спаўчэсна названых "Беларусінаў", кторы ўпраўдзе суць Літвіны. Довадам гэтаму ест дня сяго стан "Літоўскай Рэспублікі", ктора адізолёвана і бэз відочных дужань да з'едночаньня ўсіх землі Гаспадарства Літоўскага, едназначна не споўня ўласнай місыі. Атож праўдзівы Літвіны водле сваго духа захацелі адбудаваці наша праўдзіва гаспадарства, апіраючы ся на нашу слаўну традыцыю.

Такім чынам галоўнай засадай нашага разуменьня гаспадарствавай творчасьці ест традыцыя істнаваньня Велькага Княства Літоўскага, пазьней злучанага з Кралеўствам Польскім у Рэчыпаспалітай Абойга Народаў. Вакол данай традыцыі мы будуема нову гаспадарствавасьць.

Уважаючы за найгалаўнейшу засаду гаспадаратворчу традыцыю, мы ўзнаема канечнасьць пераемнасьці (сукцэсіі) іншых традыцый ВКЛ у дні сім. Вылучаема наступны аспэкты пераемнасьці:

- гаспадаратворчы: датычы інстытуцый, функцый, пасады і іншых элемэнтаў адміністрацыі;
- абыватэльскі: датычы корпарацыйнай будовы гаспадарства, захаваньня альбо аднаўленьня корпарацыйных структур: конфэдэрацый, соймікаў, ґільдый, цэхоў і інш.
- духовы: датычы практыкаваных духова-рэліґійных ідэй: вернасьць Рымскаму Першасьвятару (Арцыкаплану) з узнаваньнем абрадкаў: Рымскага і Бізантыйскага.

Літоўска ідэя не можа быці абаперта на якім-кольвек іншым ґрунце апроч консэрватызму. Вылучна консэрватызм можа даць той канечны да ўтварэньня гаспадарства фундамэнт. Гісторычны досьвед ест нашым найбарзей улюбёным консэрватыўным інструмэнтам. Якіж гісторычны досьвед можам мы утрываліць у памяці:


*Гэрб «Гаспадар»*

1. Разбітасьць і непэўнасьць літоўскіх землі падчас гаспадарствавых утворань старажытнай Русі (тэрмін ся ужыва не ў сэнсе этнічным, але гаспадарства-рэліґійным)

2. З'едночаньне літоўскіх землі у пэрыяд утварэньня Велькага Княства Літоўскага

3. З'едночаньне ў складзе ВКЛ усходніх і паўднёвых рускіх (рэліґійна) землі і далучэньне іх да эўропэйскага цывілізацыйнага абшару; паступова культурна асыміляцыя баяры і мяшчанства ўсходніх землі ВКЛ, залучэньне іх да ўспольнага літвінскага культуровага абшару

4. Працягла істнаваньне і функцыянаваньне гаспадарствавага сыстэму ВКЛ ораз утварэньне правобразу адміністрацыі Літвы дня сяго і праўных норм у выглядзе Статуту ВКЛ

5. Па ліквідацыі ВКЛ і Рэчыпаспалітай, наданьне пакаленьням Літвы дня сяго і прышлым, духовага імпэту і волі да змаганьня шляхам шматлікіх спробаў адраджэньня ВКЛ, стварэньне ўзнёслай гісторычнай традыцыі

З прычыны амаль цалкавітай ліквідацыі традыцыі, за часу бэзбожнага комунізму, можна акрэсьліць наш нурт (плынь) як консэрватыўна-аднаўленчы. З гэтага выніка, іж мы дужыма адбудаваць гісторычну повязь ва ўсіх жыцьцёва важных дзядзінах.

працяг на 4-й старонцы

МОНАРХІЧНЫ РУХ

*працяг з 3-е старонкі*

Даны гісторычны досьвед дазваля нам быць спадчыньнікамі велькай Цэнтральна-Эўропэйскай культуры, што ўзрасла на абшары ВКЛ. Бэз успрыняцьця данай культуры немажліва ест яка-кольвек спроба адбудовы гаспадарствавасьці на гэтым тэрэне.

### *Засады народавай гаспадарствавасьці*

Народ Літоўскі ад веку будаваў ся водле засады корпорацыйнай солідарнасьці. Засада та пазваляла нам на пeратрываньне ў цягу вякоў. Політычны народ Велькага Княства Літоўскага і Рэчыпаспалітай – шляхта да часу чынна станавіла ся ў абароне нашага гаспадарства. Змізаранеласьць родаў шляхэцкіх справодзіла акрутну паразу на Айчызну нашу.

Немней мы хочама адзыскаці страчана ў прошлых часах і на прышласьць збудаваць і патужна ўмацаваць лад у краі нашым праз засаду корпорацыйнай солідарнасьці. Утвараючы нанова стан шляхэцкі, мы нанова стварама Народ Політычны. Яму то зноў рачым паверыць лёс Айчызны, лічачы на то, жэ ён адпакутаваў дастаткам і годны ест падняць пакладзену адпаведальнасьць.

Гледзячы ў пэрспэктыву канечна вызначыць падваліны гаспадарствавай пабудовы:

1. Коордынацыя
2. Субордынацыя
3. Прадстаўніцтва
4. Удзел



Гэрб «Калюмны»

Дана герархія правідуе істнаваньне некалькіх шыхтоў эфэктыўнага разпадзелу ўлады. Выразіць то павінна праз утрываленьне дзьвех інстытуцыі: Монархі Князя Велькага Княства Літоўскага і іных з аднэй стараны і з'едночаных у дзьвех Ізбах (Сойме і Сэнаце) станаў баяры, шляхты і рыцары. Ты дзьве інстытуцыі разам з судом непадлеглым маюць спакой вечны і быт нашаму гаспадарству запэўніці. Сэнат ма заядночваць баяраў высокага дастоенства, іншымі словы маґнатаў. Сойм ма зядночваць ніжэйшы пласты шляхты. У раўнавазе і супрацы рэалізуюць яны коордынацыю, субордынацыю і прадстаўніцтва. Удзел шляхты забэзпэчаны праз уставадаўчы органы. Апроч таго Сойм і Сэнат маюць орґан, кторы ў найважнейшых справах ад імя стану шляхэцкага з Велькім Князем абрадуе: Паны-Рада Велькага Княства Літоўскага. Также зазначыма, іж Монарха наш - Велькі Князь Літоўскі дзядзічы ўсе тытулы кады-кольвек нададзены або слушна прыдбаны за ўсе часы, т.е. можа прэтэндаваць на трон цэлай Рэчыпаспалітай Абойга Народаў і тытулуе ся таксама яка Кроль Рэчыпаспалітай.

Удзел абыватэлі ма ся забэзпечваць двума шляхамі:

- на пазёме мяйсцовым: праз самаўрад;
- на пазёме рэгіянальным і народавым: праз корпорацыйны ґрупы і орґанізацыі.

Згодна з нашай пропозыцыяй адноўлены Ваяводзтвы ствараюць адгорну гаспадарстваву адміністрацыю, адноўлены Паветы і Воласьці ствараюць самаўрадаву адміністрацыю.

Вельмі важну ролю граюць корпорацыйны з'едночаньні. Яны то суць тымі праводнікамі зваротнай вязі, ктора дазволіць орґанам адміністрацыі рэаґаваць у часе на спасьцеражоны брак. У літоўскім гаспадарстве корпорацыйны з'едночаньні прымаюць ся як найлепей, бо ад ніх залежыць здароўе панства.

Духова моц літоўскай ідэі зыходзіць з факту рэліґійнага з'едночаньня ў Велькім Княстве Літоўскім, яка адбыла ся з Божай Ласкі ў векапомным 1595 року, ґды то Літоўскі Праваслаўны Біскупы дабравольна злучылі ся з Касьцёлам Рымскім у Сьвятой Уніі, захаваўшы Бізантыйскі Рыт. Дзякуючы гэтаму ўдало ся далучыць да поўні збаўленьня літвінаў "рускай" веры, духоўна заядночыць у запраўдны Літоўскі Народ усіх падданых краю. Толькі зламысны дзеяньні варожай Маскоўскай Дзяржавы не дазволілі ў поўні зрэалізаваці ся гэтым хвалы годным замерам.

### *Проґрам адраджэньня гаспадарствавасьці*

У гэтым раздзеле асьвятляема ў які спосаб маема замер адрадзіць гаспадарства літоўска – Велька Княства Літоўска. Нашым замерам ест такжэ адраджэньне конфэдэрацыі Літвы і Короны – Рэчыпаспалітай. Абодва замеры патрабуюць усталяваньня адпаведнага гаспадарствавага ладу: монархіі. Днесь не істнуе жаднага з монархічных падмётаў: ані Короны, ані Літвы. То значыць, іж той, хто першы адновіць істнаваньне аднаго з вышэй менаваных монархічных гаспадарстваў, адновіць такжэ і цэласьць і слушна будзе мець правы на цэласьць спадчыны Рэчыпаспалітай. Мы ставіма за падставову мэту аднаўленьне істнаваньня Велькага Княства Літоўскага, як монархічнага падмёту, што дае права на пераемнасьць усюткай спадчыны Рэчыпаспалітай.

Мы ўзнаема ўсюткі акты ВКЛ і Рэчыпаспалітай да 1648 року, не ўзнаючы жаднага з падзелаў і дужама да пераемнасьці Рэчыпаспалітай у ґраніцах 1648 року. Мы ўзнаема таксама некаторы Акты прыняты ў ВКЛ і Рэчыпаспалітай па 1648 року ў выпадку, ежалі яны былі скіраваны на адбудову нашай патуґі і гаспадарствавасьці. Акты аднаўленьня ВКЛ і Літоўскіх Паўстанчых Комітэтаў па разборах 1772-1795 рр. суць для нас натхняльнымі і векапомнымі прыкладамі.

Водле нашай гісторычнай традыцыі мы вызначаема наступну структуру гаспадарствавага ўладкаваньня:

- Форма ўрадваньня: монархія
- Уставадаўчы орґаны: Сойм з Панамі-Радай (Прэзідыумам) і Радай Маґнатаў (Сэнатам)
- Выканаўчы орґан: Гаспадар (Велькі Князь Літоўскі) разам з Канцлерам Літоўскім і міністрамі ў Радзе Міністраў (гэтманы, харужове, падскарбі і маршалкове)
- Адміністрацыйны падзел: Ваяводзтвы (ураднік – Ваявода;13), Паветы (Стараста; 25-30) і Воласьці (Цівуны або Дзяржаўцы; 90-120)
- Сыстэм самаўраду: для местаў паводле Маґдэбурскага права, паветы і воласьці

*Права люду паспалітага*

Вольнасьць практыкаваньня рэлігіі, слова, прэсы, зграмаджэнь і організацый у ґраніцах, што не ставяць пад пытаньне Богам усталяваны лад монархічны. Рэлігіяй пануючай у Велькім Княстве Літоўскім ест вера каталіцка ў двух абрадках: грэцкім (уніты) і рымскім. Велькі Князь Літоўскі з цэлай радзінай вінен яе вызнаваць. Іншы вызнаньні, як не чыняць шкоды парадкаві публічнаму, валодаюць свабодай адпраўленьня культу. Кожды абыватэль можа аскаржаць усюткіхураднікаў з выключэньнем Велькага Князя, а такжа Міністраў (Гэтманаў, Маршалкаў, Падскарбяга).

*Права Велькага Князя*

Велькі Князь ест памазанцам Божым. Ён ест тэж вайсковым водзам начальным, разпараджа ўладай выканаўчай, выконванай з помаччу міністраў. Зацьверджа і агалоша новы ўставы. Мяную ўсюткіх ураднікаў Княства. Удзеля амнэстыі для вязьні палітычных і узыча ласкі злачынцам крымінальным. Агалоша вайну, завера супакой, і паразумева ся з іншымі гаспадарствы, паведамляючы аб тым Сойм, на іле гэта датычы спраў Княства. Умовы, кторы абцяжаюць скарб гаспадарства, кторы агульна і прыватна ламаюць правы некторых мешканцаў Літвы, могуць быць завераны толькі за згодай Сойму. Звалуе і замыка Сойм. У выпадку непаразуменьня межы Князем а Соймам можа яго развязаць за згодай большасьці міністраў пад варункам, іж наноў звалуе Сойм па 4 месяцах. Па развязаньні Сойму можа выдаваць уставы ў выпадку, ежалі будуць падпісаны праз цэлу раду міністраў.


Гэрб «Котвіч»

*Правы шляхты (тэж баяры-рыцары)*

Шляхта ест народам палітычным Княства. Азнача то, іж ма вылучна права на поўны ўдзел ва ўсіх чыннасьцях палітычных. Выбера дынастыю Велькага Князя на элекцыйным сойме па заканчэньні дынастычнай лініі. Выбера і ма права быць абранай на Соймы. Ма права быць абранай у Раду Міністраў і Паны-Раду. Ма права займаць усе службовы пасады ў гаспадарстве. Ма права завязваць Конфэдэрацыі ў сьцісла акрэсьленых варунках, за выключэньнем выпадкаў, калі дзее ся гэта на шкоду гаспадарства і проці леґальнага монархі.

У звязку з фактычным зьнішчэньнем шляхэцкага і рыцарскага стану ў цягу астатніх 200 лет, канечна рэчаістна адбудаваньне шляхэцкага стану. Длятаго адбыва ся збор звестак аб потэнцыяльных асобах, годных наданьня стану шляхэцкага, абы ў выпадку з'яўленьня леґальнага Велькага Князя, тым асобам стан шляхэцкі быў нададзены. У звязку з мажлівай дэґрадацыяй некторых родаў шляхэцкіх, што выразна можна было обсэрвааць пры канцы XVIII ст., Велькі Князь абавязыва ся сьлядзіць жыцьцяпісы родаў, за помаччу Комісыі да справаў Гэральдычных і Дыґнітары, з мэтай прыняцьця ўхвалаў у справе пазбаўленьня шляхэцтва асобаў і родаў, што негодна захоўваючы ся страцілі права быць у гэтым пачэсным стане.

Водлуг часовага пляну належыць спачатку ўтварыць орґаны мясцовай улады, з тым абы далей аднавіць лінію ўраду да гары. Пасярэднім этапам ест утварэньне палітычных складнікаў народу: мяшчан, шляхты і рыцары. Канцовым пунктам суць перша элекцыя гаспадара-монарха (дынастыі), наступны монархі вызначаюць ся водле дынастычнай лініі, ажно да ей заканчэньня, па чым адбыва ся нова элекцыя.

***Практычна дзеяльнасьць***

Уцелаўляема мы сваё падыйсьцё праз асьвятову працу сярод люду, навучаючы яго нашым засадам. Гэта орґанічна праца адбыва ся ў наступны спосабы:

*Эдукацыйны: лекцыі, сэмінары і спатканьні;*
Лучы пераказ падставовай веды аб Літве, анґажуе асобы, кторы не былі запрыязьнены з літоўскай ідэяй.

*Орґанізацыйна дзеяльнасьць: стварэньне структур, ґруп націску;*
Орґанізацыйна дзеяльнасьць адбыва ся дарогай стварэньня структур Літоўскага Народавага З'едночаньня, а гэтакжа падтрымкай рознага родзаю ініцыятыў літвінскіх ураз зэ стварэньнем различных структур корпарацыйных. На гэтым пазёме праца ідзе з асобамі сьвядомымі сваёй літвінскасьці.

*Пропаґанда праз уласны орґаны друку і іншу выдавецку дзеяльнасьць.*
Пропаґанда ма на мэце стварэньне інформацыйнага абшару, у кторым то ідэя Літвы будзе функцыянаваць. Пропаґанда рэалізуе ся за помаччу ўласнага орґану – ґазэты "Літва", ураз з іншымі інформацыйнымі і промоцыйнымі матэрыяламі.

Ніжэй хацелібы мы падаць практычны засады нашай дзеяльнасьці, што дазволіць таксама разкрыць бліжэй тамты паняцьці, аб кторых ішла гутарка вышэй. Застаючы ся верным гэтым засадам, заўжды можам мець надзею на перамогу:

1. <u>Высокамэтны дух</u>

Высокамэтны дух навалітоўскай эліты (у прышласьці – шляхты), акрэсьленасьць пoглядаў і прага змяніць status qvo – усё гэта служыць таму, абы запаліць нашай ідэяй новых людзей. Бэз моцнага духа мы ніґды не зможам адбудаваць Літву. Дзеля дасягненьня нашых мэтаў мы зможам знайсьці сродкі і мажлівасьці, але толькі наша вытрываласьць у доўгатэрміновым змаганьні з варожымі сіламі, кторы апанавалі наш край, дазволіць дайсьці да звыцяства. Дзякуючы высокамэтнаму духу можна запаліць шмат людзей і маладых і старых, што "спалі адвеку". Нам нема чаго страчваць і мы павінны ўрэшце выйсьці напроціў векавым нягодам, абы звыцяжыць.

Дух гэты мусіць нас схіляць да як найвышэйшай фаховасьці ва ўспольнай справе. Фаховасьці не водле прызнаку формальнага,

працяг на 6-й старонцы

МОНАРХІЧНЫ РУХ

_працяг з 5-е старонкі_

але водле духа. Кажду справу Літвін ма рабіць фахова, то ест прылажыць усе высілкі, абы яна рабіла ся як найлепей. Разам з духам, толькі веды дадуць нам мажлівасьць звыцяжыць. Гэта ест наша падставова зброя.

2. Корпорацыйна солідарнасьць

Гаспадарства Літоўска – ВКЛ, ма быць гаспадарствам корпорацыйным. Значэньне слова корпорацыйны ест наступна: гаспадарства ма будаваці ся не з волі тлуму, але з волі паноў асьвечаных, толк у справах различных знаючых. Гэта ест тэж чыньнікам агранічаючым для спорадычнай волі масавага выбарца, у той жэ час перавагай для людзей у корпорацыі з'едночаных. Гэтка корпорацыйна засада можа называці ся засадай корпорацыйнай солідарнасьці. Істота ейна паляга на тым, іж паспаліты абыватэль, кторы звыкла не ест у стане добра знаці ся на различных пытаньнях актуальнай політыкі, пераказва моц сваго гласу да так званых "корпорацыйных звязкаў", кторы ведаючы незраўнальна глыбей той альбо іншы проблем, маюць мажлівасьць развязаць яго як найлепей.

3. Традыцыя

Прыйшоўшы на гэты сьвет не з'явілі ся мы як, не звязаны з іншымі. Лучы нас з нашымі продкамі повязь вякоў і наша сьвята вера. Лучаць нас паспольскі стасункі і парадак у нашым гаспадарстве. Лучаць нас радзіны і нашы спадкаемцы, кторых выхоўваем для жыцьця ў прышласьці. Дзеля гэтага нашым абавязкам, як людзі асьвечаных, ест падтрымліваць тамты добры традыцыі, кторы для нас уласьцівы і як можна астрэй агранічваць тамты, кторы для нас шкодны. Стаімо на абароне такіх вартасьцяў, як Радзіна, Касьцёл, Айчызна. Гэта ест для нас натуральна, бо ўмацня нашу лучнасьць, дазваля карысным рэчам утрываліць ся ў нашым паспольстве і гаспадарстве, дае нам мажлівасьць лепей збудаваці стасункі памежы ўсімі станамі.



_Гэрб «Ліс»_

_Напрыканцы падаема кроткі змест ґрунтоўных постулятаў:_

_Літоўскі Народ ма доўгу і шчытну традыцыю, ад кторай не маема права адмаўляці ся, як і ад нашай Айчызны – Літвы. Традыцыя гэта, хаця і заняпала ў астатніх дзесяцілецьцях, тым не мней застае ся моцнай і прыцягальнай. Моц нашай традыцыі ў звыцяствах, здабытых пад штандарамі літоўскай ідэі, у нашай запраўды істнай гаспадарствавасьці, што праяўля ся ў Статуце Літоўскім, гаспадарствавым сыстэме, духовай моцы Літоўскай Уніі._

_Ідэолёґічны аддзел Літоўскага Народавага З'едночаньня_

_Інформацыя: для тых, хто мысьліць аб першачарговых кроках, як то закладаньні мясцовых структур або правядзеньні конкрэтных мерапрыемстваў – просьба контактаваць ся з рэдакцыяй ґазэты "Літва"._

ЦЫТАТЫ

## БУДЗЕ АБ НАС ГОЛАСНА

"...Усе ад Радзівілаў і да паншчынных мужыкоў з Палесься, звалі ся літвінамі – і была гэта народна саманазва. Расейскасьць была таму люду чужой культурай – і таму ўцякалі ад праваслаўя, яка сілай сюды вяртала ся. Беларускі мужыкі рабілі ся з унітаў каталікамі, але заставалі ся літвінамі і не перашкаджала ім, што "палякамі" пісалі іх царскі ўлады, бо паняцьце "літвін" у XIX ст. было адным зэ складнікаў больш шырокага паняцьця "паляк", што для Адама Міцкевіча, напрыклад, азначала ўсяго толькі абыватэльства, прыналежнасьць да супольнасьці даўнейшай Рэчы Паспалітай."

_Pawei Przeciszewski,_
_"Wiкц", N1 1999 г; "Наша Вера" N1(11) 2000 г._

"...Не маючы сапраўднага рэальнага сувэрэнітэту, нам, старадаўнім літвінам, зэ скупой ласкі даравана хіба культурна аўтаномія, яка нібы дзеля сьмеху, і на здзек, ся дае пакорным, пастаўленым на калені інародцам..."

_Вячаслаў Адамчык,_
_з прамовы на XIII З'ездзе СПБ;_
_"Наша Ніва" N33 2001/08/13_

Стала выступаюча пагроза расейска аказвала нішчучы ўплыў на тоеснасьць Літвы, бо прагнучы адабраць агрэсораві арґумэнты, уґрунтоўваючы потэнцыяльну анэксыю, шляхта літоўска старала ся выключыць усютка, што толькі да таго аґрэсора магло яе ў сфэры культуровай упадабняць. Уражана Літва шыбка забарвіла ся, прыбіраючы лехіцкі колер. Есьлі не хацела знайсьці ся ў дэспотыі. А не хацела! А чым сьведчыў у век пазьней слынны ґэст розпачнага Рэйтана, пасла з Чорнай Русі.

_Сократ Яновіч,_
_Magazyn nr 49 dodatek do Gazety Wyborczej nr 284, 1998/ 12/04-1998/12/05; www.bialorus.pl/kultura_

НАША ВЕРА

*Працягваючы публікаваць з NN 3(9), 4(10) Энцыкліку Divini Redemptoris (аб бэзбожным комунізме) днесь змяшчаема частку, прысьвечану проблемам пропаґанды комунізму, спадзеючы ся карыснай лектуры для Шаноўнага Панства.*

Энцыкліка Divini Redemptoris (аб бэзбожным комунізме) Яго Сьвятаблівасьці Пана Нашага Піуса XI з абачнасьці Божай Папежа

**II. Погляды і плёны комунізму**

***Пропаґанда***

*Ілюзорны абяцанкі*

Але як жа гэта стаць ся магло, іж сыстэм адкінуты здаўна праз паважну навуку і не знайдуючы ў жыцьцёвых фактах жаднага пацьвярджэньня, мог так шыбка па цэлым сьвеце ся пашырыць? З'явішча то тым ся тлумачы, іж нешмат хто пазнаў праўдзівы намеры і мэты комунізму, большасьць жа з латвасьцю падлегла спакусе, прыступаючай да ніх у постаці найвабнейшых абяцанак. Пропаґатары комунізму бо цьвердзяць аблудна, іж не дужаюць толькі да папраўленьня долі клясаў працуючых, алеж маюць замер роўнаж ліквідаваць злоўжываньні гаспадаркі лібэральнай і дайсьці да справядлівага падзелу дабра. Суць гэта несумніўна мэты ў цэлай поўні абґрунтаваны. Комуністы аднак зарабляючы на сьвятовым крызысе умеюць нерэдка зыскаць для сваіх замыслаў такжа такі колы, кторы ў прынцыпе праціўны суць усялякаму матэрыялізмаві і тэрораві. Як кажда памылка завера зярнятка праўды, так і гэны слушны дужаньні памянёны вышэй, зручна і ў стасоўнай хвілі і ў стасоўным мейсцы высуваны і падкрэсьляны, укрываюць брыдку і нелюдзку акрутнасьць засад і мэтод большэвіцкага комунізму; у такі спосаб зводзі ся найвыбітнейшы адзінкі да таго стопня, іж стаюць ся яны апосталамі пасярод маладой інтэліґэнцыі не ўмеючай шчэ дасьцерагчы памылак, глыбока седзячых у тым сыстэме. Умеюць тэж аґітатары комунізму карыстаць ся праціўнасьцямі расавымі і ўзаемна змагаючымі ся ладамі палітычнымі, умеюць карысьці выцягнуць з бэзраднасьці навукі бэз Бога, абы загнязьдзіць ся ва ўнівэрсытэтах і псэўданавуковымі арґумэнтамі узасадніць там сваю доктрыну.



*Лібэралізм праторыў комунізмаві дарогу*

Жэбы аднак лепей зразумець як то ся стаць магло, іж такі масы работнікаў бэзкрытычна прынялі іх злудны памыслы, належы сабе ўсьвядоміць, іж работнікі на ту пропаґанду былі ўжо прыгатаваны праз занядбаньні ў дзядзіне рэліґійна-моральнай, якой ся адносна іх дапусьціў сыстэм лібэральнай гаспадаркі. Праца на змену не пазваляла работнікаві спаўняць павіннасьці рэліґійны нават у нядзелю і сьвяты. Не старана ся а будову касьцёлаў блізка мейсц працы, ані не ўлатвена задачы душпастырам. Што болей, падпірана засьвечаньне (ляіцызм) і яго інструмэнты. Днесь збера ся плён гэных памылак, так часта асуджаных праз Папярэднікаў Нашых і праз нас самых. Длячагож дзівім ся, іж тыля народаў, кторы аддалілі ся ад хрысьціянства, пападла ў комунізм і амаль у нім тоне?

*Змова маўчаньня ў прэсе*

Далейшым чыньнікам прычіняючым ся патужна да разпаўсюджваньня комунізму ест прысяга маўчаньня ў вялікай часьці некаталіцкай прэсы сьвету. Паўтараем: прысяга, бо іначай трудна вытлумачыць, длячаго та прэса так зграбна хватаючая і нотуючая драбнейшы здарэньні магла так доўга маўчаць абок акропных злачынаў споўненых у Расеі, Мэксыку і ўрэшце ў вялікшай часьці Гішпаніі, длячаго стасункава мала піша аб так разлеглай сьвятовай орґанізацыі, якой ест сэкта комунізму, кіравана з Масквы. Агульна аднак вядома, іж маўчаньне то належы па часьці прыпісаць каротказорчасьці палітычнай, але немней знаходзі яно падтрымку ў некаторых таемных звязкаў, кторы ўжо аддаўна дужаюць да збурэньня хрысьціянскага ладу супольніцкага.

*Працяг у наступным нумэры*

## РЫЦАРСКІ РУХ

*Вельмі часта мы сустракаем людзей, якія мала ведаюць гісторыю і ўвогуле не цікавяцца ёю. Тым больш яны ня ведаюць гісторыю і культуру сваёй краіны не кажучы ўжо пра сусьветную. Ёсьць такі народны выраз: "Калі ня ведаеш, адкуль прыйшоў, то ня ведаеш, куды пойдзеш". Але я не зьбіраюся распавядаць вам чаму ды й навошта трэба цікавіцца гісторыяй і культурай.*

А хачу я вам паведаць пра рыцарства. Пра рыцарства 500-600 гадоў таму і сёньня. Пра рыцарства ў заходніх краінах і ў нас.

Кожны скажа: "Рыцар – гэта дужа моцны дзядзька на кані, які забівае розных цмокаў і перамагае на турнаях". Але ж гэтымі словамі немагчыма растлумачыць, што ж на самой справе ёсьць рыцарства.

Дык вось хачу вам паведаміць, што рыцарства было не толькі ў заходняй Эўропе але і ў нас – у ВКЛ. Нашыя рыцары таксама праводзілі свае турнаі, прысьвячалі подзьвігі ды баі сваім паннам, сьпявалі песьні ... І так як і ў Эўропе на турнаі князь адорваў пераможца вельмі каштоўнымі рэчамі, а народ славай ды павагай.

У сярэднявеччы жыцьцё рыцара складалася з кіраваньня сваімі маёнткамі ды землямі. Але ж рыцар – гэта воін-прафэсыянал і таму ён увесь час ня жыў у сваім фальварку. Рыцары былі такімі людзьмі, якія не маглі доўгі час знаходзіцца без зброі ў руках. Таму па ўсіх краінах эўропы, у розных гарадах і рыцарскіх замках ладзіліся турнаі і балі, а таксама паляваньні на дзікіх звяроў. Калі ў сярэдневяковым горадзе праходзіў турнай, то горад быццам бы адыходзіў ад свайго ціхага жыцця. Пад час турная ў горад зьяжджаліся шматлікія рыцары са сваімі падданымі, паннамі ды музыкамі. У замку зьмяшчаліся гэрбы ўсіх рыцараў хто прыбыў на турнай. Каму не хапіла мейсца ў замку, а такое было часта, бо шмат хто хацеў удзельнічаць у турнаі і атрымаць асалоду боя і славы, той ставіў шатры ля замку.



Конны воін. Пачатак XV ст.

Пасьля вызначэньня пераможцы турная яго адорвалі вельмі каштоўнымі дарамі, таксама рыцар забіраў сабе латы пабітага ім рыцара. Так у 1468 годзе Лярэнца Мэдычы, гаспадар Флярэнцыі, атрымаў срэбны шолам з прымацаванай фігуркай Марса, таксама із срэбра.

Што датычыцца сёньняшняга рыцарства, то зараз у нашай краіне існуе 30 клюбаў па тэматыцы сярэднявечча. Кожны год зьяўляецца мінімум па два клюбы. Рыцарскі рух сёньня гэта даволі цікавая зьява. Бо ў клюбах адбываецца дакладная рэканструкцыя побыту й культуры сярэднявечча. Гэта значыць, што аднаўляецца не толькі зброя і рыцарскія традыцыі, але й мода, музыка, танцы, рамёствы, ды ўвесь побыт. І што самае цікавае, ўсе рэчы аднаўляюцца толькі з тых матэрыялаў, якія выкарыстоўваліся за іх вырабам ў сярэднявеччы. Безумоўна гэта выклікае вялікія цяжкасьці, бо некаторыя матэрыялы цяжка знайсьці ў продажы ды й грошы трэба на рэканструкцыю. Але ж калі чалавек ужо прыйшоў у рыцарскі клюб, прабыў у ім з год і пачаў рэканструкцыю, то толькі адзінкі сыходзяць пасьля гэтага, а астатнія застаюцца назаўсёды.

А цяпер падрабязьней пра жыцьцё сёньняшніх рыцараў.

Вы мабыць чулі, бачылі па тэлебачаньні, прысутнічалі на фэстах, але ж адно гэта назіраць, а іншае адчуваць сябе ў сярэднявеччы. Так на фэстах удзельнікі могуць добра павесяліцца, калі шмат клюбаў, адпаведна рыцараў і паннаў. Некаторыя лічаць, што ўсё, што робіцца на фэстах абмяжоўваецца толькі турнаем: "абы пабіцца". Безумоўна сёньняшні рыцар так як і ў сярэднявеччы не можа абыйсьціся без бою. Але шмат чаго глядач не можа ўбачыць падчас фэсту, напрыклад рыцарскага абозу, бо гледачоў туды ня пускаюць. Яны ня бачаць сьпевы сярэднявечных песень, танцаў паннаў і рыцараў, тае музыкі і таго побыту. Бо немагчыма перадаць словамі тое, што напаўняе тваё сэрца калі ты падыйдзеш да сваёй панны, станеш на калена і прысьвячаеш ёй: гэты бой або самае цудоўнае – перамогу.

Што датычыцца баёў, то яны адбываюцца з ужываньнем сапраўднай зброі. Латы таксама з жалеза, адпаведныя сярэднявечным і важаць столькі ж: ад 15 кг і больш. Падчас фэсту байцы клюбаў ператвараюцца ў сапраўднае войска са сваёй строгай дысцыплінай. У бойцы клюбы адзін перад адным дэманструюць сваю вайсковую падрыхтоўку. Многія думаюць, што рыцары б'юцца, як дзеці - дзеля збавы. Але да гульні тут далёка, падчас бугуртаў – групавой бойкі пашыхтаваных аддзелаў, бой ідзе ў поўную моц, ня лічучы колькасьці трафаў (пападаньняў), як на турнаі. Рыцары б'юцца пакуль меч ня падае з рук, або ты сам ня падаеш на зямлю перад націскам. Адсюль і вынікаюць пераломы рук і ног, рэбраў, выбітыя зубы... Добра, што такіх цяжкіх выпадкаў на 100 байцоў – 3..4, лёгкія выпадкі не залічваюцца, бо іх шмат. Падам яшчэ адзін прыклад. На мядзельскім турнаі я ўбачыў рыцара які даў абет маўчаньня. Ён маўчаў цэлы тыдзень пачаў мовіць, калі перамог суперніка на турнаі.

Што датычыцца паннаў, то як і ў сярэднявеччы рыцар павінен служыць паньне свайго сэрца. А яе справа назіраць і хваляваца пад час боя, весяліцца разам са сваім рыцарам атрымаўшым перамогу, і славу, і гонар, альбо толькі вядомасьць. Сёньня панны таксама вучаць танцы сярэднявечча, граюць музыку. Раней адзеньне панны шылі самі сабе але ў гэтым годзе з'явілася атэльe для шыцьця гістарычнага адзеньня. Вельмі прыгожа выглядае дзяўчына ў адзеньні, якое насілі яе продкі 500 год таму. Жадаю вам пабачыць на фэсьце гэта хараство, асабліва прыгожа выглядае рыцар у латах, калі побач зь ім стаіць панна. Адразу адчуваеш нейкую ўзнёсласьць ...

Зразумела, шмат што немагчыма апісаць у адным артыкуле, як і ўсё тое, што адбываецца ў сёньняшнім рыцарскім руху. Немагчыма было закрануць усе кірункі, якія абіраюць клюбы. Сёньняшняе рыцарства нясе нешта зьмененае з даўніны, але ня менш прыгожае і ўзьнёслае.

*Ягор Ліцьвін*

## ПОЭЗЫЯ

Ўчора шчасьце толькі глянула
нясьмела, -
І разьвеяліся хмары змрочных дум.
Сэрца чулае і млела, і балела,
Радасьць душу мне шчаміла, быццам
сум.

Усё жыцьцё цяпер, як лёгкая завея,
Кнігу разгарнуў – і не магу чытаць.
Як зрабілася , што пакахаў цябе я, —
Хіба знаю я? Ды й на што мне знаць?

*1912*
*М.Багдановіч*

Мроі ...

Пісаць умею з сэрца песьні,
Цікавасьць маю да жыцця.
Намер я маю – прысьвяціць табе шмат
вершаў.
Хачу я: аднавіць сустрэчы з небыцьця,
І зноў хадзіць па сьцежках мройных,
Лясах прыгожых – дубовых альбо
хвойных,
Сустрэць сьвітанак разам, незвычайны,
Які славамі цяжка апісаць,
Каб быў я гэтым усім зачараваны
І ў гэты ранак, каб за руку цябе
трымаць.

*2001*
*Ягор Ліцьвін*



***Газэта «Літва» была адноўлена ў 1995 р. Да 1998 р. у рэдакцыю ўваходзілі Уладзімер Міхневіч, Аляксандар Ян Стральцоў-Карвацкі і Уладзімер Пятровіч. З 1999 р. склад рэдакцыі зьмяніўся і гэты нумар падрыхтавалі:***

***Рэдактар:*** ***Аляксандар Ян Стральцоў-Карвацкі***
***Аўтары:*** ***Натальля Федаровіч-Закрэўская***, ***Васіль Санковіч***
***Вёрстка:*** ***Ян Стары***

***Нашы прынцыпы і як нас знайсьці:***

Рэдакцыя газэты друкуе матэрыялы з мэтай забесьпячэньня свабоднага пераплыву інфармацыі, бяз згоды аўтараў і не нясе адказнасьці ў адпаведнасьці з заканадаўствам аб аўтарскіх правох, у сувязі з адсутнасьцю прававое дзяржавы на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь. Адказныя за дакладнасьць фактаў, пададзеных у артыкулах суць аўтары публікацый. Рэдакцыя мае права на стылёвае і граматычнае рэдагаваньне аўтарскіх матэрыялаў.

*Поштавая скрынка:*
п/с 26, 220050 Менск-Літоўскі
Рэч Паспалітая Літва - Res Publica Lithvania
e-mail: litva@adukatar.lingvo.minsk.by